# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5
1933
МАЙ № 9

## ЕДЗЕМ У ЛАГЕРЫ

Скончылася вучоба ў школах. З радасьцю сустрэлі ўсе вучні летні адпачынак.

Будуць цяпер акцябраты грэцца на сонейку, хадзіць купацца ў рэчку, будуць гуляць у закоўку, у пікара.

А многа дзяцей, лепшых ударнікаў вучобы, паедуць у акцябрацкія лагеры. Будуць яны там папраўляцца, набірацца сілы для далейшай вучобы.

І такіх акцябрацкіх лагераў будзе сёлета ў Беларусі чатыры: у Менску, Віцебску, Гомелі і Бабруйску. Тысяча акцябрат перабудзе ў лагерах за лета. Кожны прабудзе ў лагеры месяц.

То сям, то там чуюцца вясёлыя галасы сярод акцябрат.

— Едзем у лагеры!

* * *

А вось некалькі парад для тых, хто едзе ў лагеры.

### ЯК ТРЭБА КУПАЦЦА ЛЕТАМ?

**1. Купацца трэба кожны дзень. Першы раз—толькі акунуцца, потым—пяць хвілін. А з сярэдзіны лета—дзесяць хвілін.**

**2. Ня купайцеся нашча. Ня купайцеся адразу пасьля яды.**

**3. Ня купайцеся па адным.**

**4. Навучэцеся плаваць.**

### ЯК ЛЯЖАЦЬ НА СОНЦЫ

**Усе любяць ляжаць на сонцы. Але ня ўсе ведаюць як гэта трэба рабіць.**

**А рабіць гэта трэба вось як:**

**1. Галаву накрыць хусткаю або рубашкаю, а то ад гарачыні разбаліцца.**

**2. Першы дзень трэба ляжаць пяць хвілін. Пасьля патроху прыбаўляць. Але больш за паўгадзіны ляжаць на сонцы няможна.**

**3. Нагрэйце спачатку грудзі і жывот, потым падстаўце сьпіну, бакі. Ня грэйце доўга адно месца—могуць быць пухіры.**

**Будзецеісьці на экскурсію, дык не забудзьцеся ўзяць з сабою ёду і марлі. Калі ў час купаньня парэжаш нагу ці руку, памаж рану ёдам і завяжы яе марляю або чыстаю анучкаю, а то можа быць нарыў.**



Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# ПУГАЧ

**З апавяданьня акцябронка-лагерніка**



Наш лагер знаходзіўся ў калгасе „Зялёны Бор“. Не дарэмна, мусіць, так назвалі гэты калгас. Кругом там лес і лугі. Нам вельмі падабаўся бор, што пачынаўся тут-жа за калгаснымі гумнамі. Бадай кожны дзень былі мы ў бары. Толькі як дождж—школы пільнаваліся: там быў наш лагер.

Бабка Аўдоля ў нас за старажыху была. Пацешная такая. Вельмі любіла пра розныя прыгоды апавядаць. І ўсе гэтыя прыгоды, як кажа бабка, з ёю трапляліся.

Аднаго разу сказала яна нам:

— Вы вось цягаецеся па бары, а таго ня ведаеце...

— Чаго, бабка, таго?.. спыталіся мы.

— А лесавіка?

— А гэта што, зьвер такі?—зацікавіліся мы.

— Горш за зьвера,—кажа бабка.—Я аднаго разу натрапіла была на яго, дык цяпер уночы на двор выходзіць баюся.

Нас гэта ўжо вельмі зацікавіла. Нават страшнавата стала, хоць былі і ня ў лесе.

— Ішла я,—кажа бабка,—уночы каля бору і раптам чую: як закрычыць нехта, як заенчыць і засьмяецца—усё разам... Сьпярша я траха не абамлела, а потым прышла да памяці ды наўцекі, што мела сілы. Прыбегла дадому, як шалёная, задыхалася, упала на парозе. Да сьмерці перапалохаў лесавік...

Нашы акцябраты таксама перапалохаліся ад такога апавяданьня.

— Вось дык лесавік!

— Я больш у бор ні нагой,—кажа Юлік.

— І я—таксама.

Расказалі мы аб гэтым важатай Гэлі.

— А вы больш ня верце ўсякім бабкам— вось мая вам парада,—кажа нам Гэля.

— Чаму-ж так? Няўжо бабка нахлусіла?

— Не, яна нават і не нахлусіла. Гэта праўда, што яна чула. Але хто там крычаў— бабка ня ведае. Ніякіх там лесавікоў: выдумкі гэта несьвядомых. Самы звычайны пугач—вось хто ў лесе крычыць і заліваецца поначы.

І важатая Гэля нам расказала вось што:

— Пугач або філін падобны на саву. Ён, як і сава, птушка драпежная: корміцца дробнымі жывёламі.

Уночы пугач вельмі дзіўна крычыць, нібы хто-небудзь рагоча або плача. Многія несьвядомыя людзі баяцца гэтага, лічаць, што гэта крычыць выдуманы імі „лесавік“. Бедны пугач зусім не вінаваты, што ў яго такі страшны голас. Яму-ж таксама хочацца пасьпяваць ды пакрычаць, як і кожнай іншай птушцы.



У пугача вялікія пукатыя вочы; кругом іх тарчаць маленькія пер'і. Удзень пугач бачыць зусім кепска і хаваецца дзе-небудзь у дупле дрэва ці ў лясной глушы. Затое ўночы пугач бачыць вельмі добра; у гэты час ён ганяецца за мышамі, птушкамі і іншымі дробнымі жывёламі, нават зайцамі.

Карысны пугач тым, што ён зьнішчае многа мышэй

# Колькі чалавек у лагеры

**Жартаўлівае апавяданьне А. Барто**



Міцька і Рыгорка заспрачаліся, колькі чалавек у іхным лагеры.

— Многа! – кажа Рыгорка.—Трыццаць чалавек будзе.

— Вот сказаў... трыццаць чалавек... Мільён! Ды яшчэ важатыя зорачак, ды яшчэ Тося, ды яшчэ доктар Сымон Сымонавіч.

— Важатыя ня лічацца... Сымон Сымонавіч таксама не акцябронак.

— Ну, давай усіх пералічым.

— Як-жа мы будзем лічыць?

— Вельмі проста. Сядзем вось тут на лаўцы: хто каля нас прабяжыць, таго і будзем лічыць.

— Ну, пачынай!

— Мішка, Грышка і Наташа,
Янка, Валік, Волька, Саша,
Дзьве Марысі і Алег—
Гэта дзесяць чалавек.
Шурык, Кіра, Волька, Гэля...
— Шурык з Гэляй праляцелі...
Ты лічыў іх, ты забыўся.
— Ганка, Юлік і Марыся...
Віцік, Міцік і Алег...
Гэта колькі чалавек?
— Ты лічыў ужо Алега:
Ён два разы міма бегаў.
— Не мяшай, а то я зьбіўся.
Мы лічылі дзьвёх Марысяў?
Дзьве Марысі і Наташа,
Янка, Валік, Волька, Саша,
Віцік, Міцік і Кандратка...
Стой, я зьбіўся! Дай спачатку!

— Больш не магу... У мяне ў вачох усё замітусілася. Яны, як знарок, па дзесяць разоў міма бегаюць.

— А я ведаю, як зьлічыць.

— Ну, як?

— Паклічам усіх сюды і запытаемся: рабята, хто хоча, каб сёньня мёртвай гадзіны ня было? Усе падымуць рукі, а мы па руках і падлічым.

— А калі хто-небудзь не падыме?

— Усе падымуць. Да аднаго...

— Лепш пойдзем да Тосі і запытаемся,— яна важатая лагеру, яна павінна ведаць.

— Тося, скажы: колькі ў нас чалавек у лагеры?

— Многа.

— Мы ведаем, што многа, ты скажы, колькі.

— Палічэце.

— Мы лічылі-лічылі, траха ня здурнелі.

— Можна вельмі проста зьлічыць.

— Як? Ну, скажы...

— Спачатку зьлічэце, колькі ў нас важатых зорачак.

Хлопцы згадзіліся.

— Ну, пачынаем.

— Першая—Рая,
Ліда—другая,
Янка—трэці
І я—Пеця...
Юрка—пяты,
А хто шосты?
— Стой! Стой! Што ты?
Юрка-ж не важаты.
— Ну, тут шмат іх...
— Толя—пяты,
Шостая—Мая,
А сёмая—
Хто такая?
Сёмы, здэцца,
Будзе Хома.





— Не магу...
Іду дадому.
— Ёсьць яшчэ важаты—Міня.
— Не магу. Давай пакінем...
— Пачакай, а хто дзевяты?
— Віцька. Шурык-жа дзесяты.
— Значыць, дзесяць чалавек
Мы лічылі цэлы век?



— Мы ўжо зьлічылі, Тося. Дзесяць важатых зорачак. А колькі акцябрат—невядома.

— Палічэце. Дзесяць важатых, значыць дзесяць зорачак, а ў кожнай зорачцы дзесяць акцябрат. Колькі ўсіх?

— Мільён.—Я-ж казаў—мільён.

— Зусім ня мільён, а сто чалавек. Лічыць ня ўмееш,—сказала Тося.

— Не, умею. Гэта ў нашым лагеры сто чалавек, а ва ўсіх лагерах—мільён!

# Курорт



Крым.

Пятровіча на заводзе „Сельмаш“ усе ведаюць. Тры дзесяткі гадоў выстаяў Пятровіч каля станка.

Завод Пятровіч ведае, як свае пяць пальцаў. Ён з кожнай машынай знаёмы.

У каго што сапсуецца ў машыне, на дапамогу Пятровіча клічуць. Падыдзе ён—тут падкруціць, там прышрубуе, глядзіш—машына і пайшла.

Машыны лечыць, а сам стаў кашляць, худзець.

Раз падышоў да Пятровіча член камісіі па ахове працы і кажа:

— Падлячыцца трэба табе. На курорт у санаторыю паслаць хочам цябе.

Пятровіч і рукамі замахаў.

— Што вы выдумалі... Столькі год працаваў, ніколі ня езьдзіў... У такую далячыню цягнуцца.

Таварышы акружылі і кажуць:

— Едзь, Пятровіч, папраўляйся, не паедзеш—сілаю ў вагон пасадзім.

Сабраўся Пятровіч і паехаў. Дарога была доўгая,—два дні цягнікам ехаў, потым шэсьць гадзін на вялікім параходзе.

Ехаў ён не адзін. У гэтую санаторыю ехалі з ім яшчэ 12 рабочых і 7 работніц з розных фабрык і заводаў.

Калі прыехалі, адразу памыліся ў ванне. Потым усіх агледзеў доктар і іх завялі ў спальню. Спальня—вялікі пакой, увесь заліты сонечным сьвятлом, ложкі стаяць чысьценькія акуратна прыбраныя.

Пятровіч даведаўся, што да рэвалюцыі палац гэты належаў царскім сваяком. Яны ў ім жылі ўлетку некалькі тыдняў, а ўвесь іншы час палац пуставаў.

Цяпер у гэтым доме адпачываюць і лечацца адразу 450 чал.

За шэсьць тыдняў Пятровіч так паправіўся, што яго цяжка было пазнаць. Ён загарэў, падужэў і зусім здаровым прыехаў на завод.

# МЫ ПРАЦУЕМ НА СЯБЕ

Рабочы Фрыц прыехаў з Германіі ў СССР на працу. Фрыц—манцёр. Астаўся ён працаваць на аднэй вялікай пабудове. Яго прымацавалі да камсамольскай брыгады.

Брыгада павінна была складаць з гатовых частак важныя машыны.

Бяз добрага тэхніка камсамольцы не маглі-б справіцца з гэтай работай. І Фрыц пачаў вучыць камсамольцаў.

Не спадабалася Фрыцу раней, што далі яму такіх маладых памочнікаў.

„Самому, мусіць, прыдзецца за іх усё рабіць“, думаў ён.

Але прайшло некалькі дзён і Фрыц зусім па-іншаму стаў думаць.

— Не разумею, што гэта за народ такі,— кажа ён сваім таварышам, якія з ім разам прыехалі,—кожнае слова ўважліва ловяць. Увечары з работы ня хочуць ісьці. Усё сьпяшаюцца, каб лепш і хутчэй зрабіць. Адзін другога падганяюць.

Падышоў аднаго разу Фрыц да брыгадзіра Васіля Дземіна і кажа:





— Скажэце мне, таварыш, вам, мусіць, надта многа грошай плацяць? Чаму вы так стараецеся?

— Мне плацяць нават менш чым вам,— адказаў Васіль.—Але працуем мы так таму, што нам трэба плян выканаць. І трэба перагнаць другую брыгаду рабочых. У нас сацспаборніцтва.

Фрыц яшчэ больш зьдзівіўся.

„Незразумела мне ўсё гэта,—падумаў ён.— У нас так не працуюць“.

Праз некалькі месяцаў ішоў Васіль з Фрыцам разам дадому. Фрыц і кажа:

— Васіль, а я зразумеў, чаму так добра працуюць у СССР. Калі-б у Германіі заводы належалі рабочым, і мы-б ня горш працавалі.

— Правільна, таварыш Фрыц,—адказаў Васіль.—Мы працуем на сябе.

Калі-ж прышоў час ад'яжджаць Фрыцу ў Германію, ён не захацеў ехаць, а застаўся ў СССР.

## НА ЗАВОДЗЕ

У сярэдзіне заводу
Шорах-гоман, роўны стук,
Ля станкоў і ля прыводаў
Ня зьлічыць рабочых рук.

Ўюцца, круцяцца тут колы...
Гэй, дружней, скарэй давай,
І пад гэты шум вясёлы
За машынай пасьпявай!



# Крыжан

Апавяданьне С. Баранавых
Малюнкі Эйдэльмана

У нашым калгасе шмат коняй і ўсе яны выліналі—гладкія гэтакія, чыстыя. Але найлепшы з іх наш калгасны Крыжан. Гэта, як кажа дзядзька Аўлас,—конь стаеньнік. Дзядзька Аўлас кажа, што наш конь, апрача стаеньніка, яшчэ і пародзісты. Ён і называе, якой пароды Крыжан, але я—не магу запамятаць. Я толькі ведаю: Крыжан чырвонай масьці, прысадзісты. Ногі тоўстыя і калматыя. Крыж у яго—шырокі, а на сьпіне, на крыжы, раўчук. Губы ў Крыжана чорныя і вельмі крохкія, сьвежыя, дрыжачыя. Я люблю гладзіць рукою па крыжановых губах. Ён глэмае тады маю руку, але ня кусае.

Дзядзька Аўлас кажа на мяне:

— Ня лезь, не давай рукі, а то—адатне!

— Не адатне,—кажу я дзядзьку Аўласу. Бо я-ж адчуваю, што Крыжан ня хоча мяне ўкусіць, а толькі дурэе з маёю рукою. Ён мяне ведае. І нават, калі я заходжу ў калгасны новы канюшнік—Крыжан абавязкова заіга-гае.

Тады я кажу, здалёк яшчэ, на Крыжана:

— Стой!.. Сто-ой!.. Чаго ты... Э-эх, ты мало-ойчык...

А калі Крыжан есьць сена альбо авёс, тады я яго ведаю: ён злосны і яго ня трэба чапаць. Бо тады ён, канешне, можа і ўкусіць нават.

* * *

Заўчора і ўчора ня было часу неяк схадзіць да Крыжана. Наш настаўнік, Пятро Юстынавіч, вельмі-ж порсткі—сюд-тут. Дык ён захацеў рабіць грады на школьным агародзе. Гэта, канешне, добра: будзе ў нас свая і цыбуля і ўсё. Мы зранку вучыліся, а потым—упоўдні абсыпалі барозны і садзілі цыбулю на градах. Але сёньня я маю больш вольнага часу. Я выходжу з школы і за адным заходам іду да Крыжана.

Канюшнік новы ў нашым калгасе. Летась яго скончылі, аж на сорак і яшчэ некалькі коняй.

Я іду паўз каапэратыў і сустракаю Гэльку, сваю сястру. Я як і ня бачу яе—скарэй зварочваю за рог каапэратыву, каб не гаварыць з ёю, каб ня траціць надарма часу.

Дзядзька Аўлас не забыўся, што я ўчора і заўчора ня быў у канюшніку. Ён бачыць мяне яшчэ здалёк і кажа:

— Ідзі, ідзі... Твой „малойчык“ сёньня унь з бараною гуляў па полі.

— Як гэта ён гуляў? — не разумею я Аўласа.

— Ня ўпрыседкі-ж гуляў, — кажа Аўлас, — а поле баранаваў.

— По-оле...

Мяне аж дзіва ўзяло, што Крыжан ужо ў работу пайшоў. І мне вельмі шкода, што я ня бачыў, як ён першы раз ішоў у работу.

— А-а-ах, — кажу я дзядзьку Аўласу. — Чаму-ж ты мне раней не сказаў, от-бок...

А цяпер бяз усякай гаворкі іду ў канюшнік і чую як фыркае Крыжан — жуе невашта.

— Кось, мой кось, — падыхожу я да яго. Але ён як і ня бачыць мяне — жвакуе мурожнае сена.

Я мацаю яго бок рукою, пальцамі чашу грыву, а ён усё глэмае, ляпае губамі — ловіць сена.

— От і ты ўжо як усе коні, — услух кажу я. — Баранаваць умееш...

А потым я мацаю яго персьні: яны крыху спацелыя. Я яшчэ больш мацаю і раптам — Крыжан аж увесь ухмыльнуўся.

— Чаго ты?! — крыху зьлякнуўся я. Бо ён усёроўна, як укусіць мяне хацеў. — Стой!

Але я яшчэ мацаю і адразу абмацаў.

— Эгэ-гэ... — праказаў я. — Гэта-ж нехта зацёр... Крыжана нехта зацёр!.. — на ўвесь голас крычу я. — Хадзеце сюды, дзядзька Аўлас!..

Аўлас падыходзіць з другога канца канюшніка і ня ведае, пра што я кажу. А я яму зноў:

— Зацёрты... Крыжан...

У канюшніку яшчэ відно, але ўжо пачынае шарэць: дзьдзька Аўлас ня бачыць, а я яму паказваю. І ён, урэшце, таксама агэгэкае.

— Вось табе якія работы, — аж голас у мяне неяк перамяніўся. — Ад першага разу...

— Заўтра ня пойдзе на поле, — выращае Аўлас.

І я то ведаю, што ня пойдзе. Але-ж яму баліць болька...

— А хто гэта баранаваў Крыжаном? — пытаю я Аўласа.

— Макар Лізунчыкавых, — кажа мне дзядзька Аўлас.

— Добры інтэрас... Ведаю я, які ён Макар. Ён ані не глядзіць табе жывёліны... ці ела яна, ці ня ела.

І я кажу дзядзьку Аўласу, каб ён чымнебудзь памазаў больку Крыжана.

— Несалонаю тлустасьцю ці яшчэ чым-небудзь, можа.

— Трэба будзе чым-небудзь... — кажа Аўлас.

* * *

У Клемусавай хаце шум. Сабраліся ўсе нашы калгасьнікі і гавораць пра работу на полі. Юзік кажа, што Антось менш навор-



вае за ўсіх. Коні ў яго цягнуць плуг, як назаўтрае трэба. Рыгор кажа, што Антось за гэта менш і атрымае ўвосень. А Цімахоў Ігнась, старшыня калгасу, кажа:

— Гэтага мала... Мала таго, што ён менш заробіць. Нам патрэбна, каб узарана было і ўпару засеяна было. А калі мы будзем рабіць—абы прарабіць дзень—нас выперадзіць і Ганчароўскі калгас, і калгас „Новы шлях". Трэба рабіць на полі як трэба: і коняй не замарыць і зрабіць каб шмат... Бо гэта толькі марнаваньне коняй, а не работа, як Антосева.

Я сяджу каля стала і, падпёршы бараду далоняй, слухаю. У мяне аж нават вялікая злосьць на Антося: хіба-ж ня можна крыху і падагнаць, калі трэба, коні? Канешне, іх ня трэба хвастаць пугаю, але так можна і падагнаць. А потым я раптам успомніў Макара.

„От і пра Макара трэба было казаць,— вырашаю я.—Чаму гэта ніхто не зачэпіць яго, што ён нейкі асэсар ці што?"

Я пазіраю то на Юзіка, то на Рыгора, то на Цімаховага Ігнася. А вуньдзе і Макар сам. Ён сядзіць, як ні ў чым ня бывала.

— Слухайце...—хачу перапыніць я Юзіка.—Слухайце...—але ніхто не бярэ мяне на ўніманьне.

Тады я выстаўляю руку да Ігнася ды кажу:

— Дзядзька, Ігнась, дай мне ўзяць слова...

— Бяры сабе, калі хочаш...—бачу я як ён неяк аж усьміхнуўся, калі гаварыў да мяне. Але я не чакаў Ігнасёвага дазволу, а адразу:

— Унь Макар, як баранаваў, дык намуляў усе Крыжановы персьні. І яно цяцерака, нават, ня гоіцца. Нельга дакрануцца да персьняў. Крыжану вельмі баліць.

А Макар аж не сьцярпеў, што я праўду кажу:

— Табе ўжо трэба спаць малое,—кажа на мяне ад злосьці.

— А я, можа, і не хачу спаць. Нябось запякло, адказаў я яму.

— Маладзец... — кажа мне дзядзька Ігнась,—так, так... Ось гэтак: трэба, каб кожны адзін за другім наглядаў і коняй шанаваў.

А Юзік да Макара:

— Сорам табе. Ня выбраў, мабыць, грывы з-пад хамута і зацёр Крыжана. А яшчэ гаспадаром быў, так званым.

А Ігнась пераняў Юзіка:

— Тут мала сораму... за гэтакую работу— з калгасу выганім! Мы гэта разгледзім...

Мне аж весела неяк вельмі. Я пазіраю на ўсіх і больш на дзядзьку Ігнася. А ў маіх думках думаецца: болей гэтага ня будзе.

---



# КАЛГАС

Калісь тут на полі
Ня з песьняй, а плачам
Хадзіў за сахою
Бядняк з сваёй клячай.

Кульгавенькай сошкай
Араў як папала,
Каб хлеба хоць трошкі
Зямліца давала.

* * *

Цяпер-жа дае нам
Зямля—не зямліца—
Высокі авёс
І ячмень, і пшаніцу.

У полі шырокім,
На-права, на-лева,
Мы тысячы гэктараў
Маем пасеваў.

Па першаму знаку,
Па першаму слову—
Усе трактары
Да работы гатовы!

Мы дружна працуем,
Працуем з ахвотай,
Каб болей карысьці
Давала работа.



# ЦІ НЯ ХЛУСІЦЬ ЯНКА?

Акцябронак Янка вярнуўся з лагеру.

— Ну, што ты там бачыў, раскажы?— пацікавіліся яго сябры.

— Шмат чаго цікавага бачыў,—пачаў Янка.—Вось аднаго разу пайшлі мы ў лес. У гэтым лесе расьлі дубы, вішні, асіны, сьлівы, сапяжанкі і розныя кветкі: пралескі, вяргіня, сланэшнік. Каля аднае вывернутай елкі мы ўбачылі зайца. Ён сядзеў на задніх лапках і еў нейкую злоўленую ім птушку. Мы падышлі зусім блізка—за тры шагі. Тады заяц, не сьпяшаючыся, кінуў птушку і скокнуў на хвойку. Адтуль ён неўзабаве пачаў шпурляць у нас шышкамі. Такі жартун, гэты заяц! Але вось убачыла яго сава. Страшная такая жывёліна. Скокнула яна на зайца, хапіла яго дзюбай і панесла ў гушчар. Вось што я бачыў.

Ці ня хлусіць Янка? Праверце, дзеці, яго апавяданьне і напішэце нам у рэдакцыю.



# Выратавалі

Апавяданьне В. Ляшэвіча.
Малюнкі Эйдэльмана.

Пецька і Паўлік ніколі ня думалі, што гэты прыгожы вясеньні дзень скончыцца такімі важнымі падзеямі.

А справа сапраўды важная адбылася.

Гулялі хлопцы пасьля заняткаў каля чыгункі. Далёка адышлі ад свае хаты—чыгуначнае будкі. Бегаюць, дурэюць.

І раптам абодва яны спалохана зірнулі адзін на аднаго.

— Што гэта стаіць на пераезьдзе?—жахліва ўскрыкнулі хлопцы.

— Хутчэй!.. Бяжэм!..—закрычаў Паўлік.

Пецька і Паўлік з усяе сілы кінуліся да пераезду. Ад шпаркага бегу займала дух, але яны тольki падганялі адзін аднаго. „Хутчэй, хутчэй!“

А на пераезьдзе стаяў трактар з прычэпкай, пакінуты нейкім злачынцам.

— Прычэпку, плугі трэба адчапіць...—падаў думку Паўлік, як падбеглі да трактара.

І абодва, упіраючыся ў зямлю нагамі, узяліся за прычэпку. Адчапіўшы яе, адцягнулі за пераезд.

— Цяпер, можа, лягчэй будзе і трактар сапхнуць.

Як не стараліся хлопцы, але трактар не варушыўся з месца.

Страшная думка не давала спакою:

— Вось зараз прымчыцца цягнік, з разгону наскочыць на трактар, разаб‘е яго і сам разаб‘ецца.

Не павінна гэтага быць!

— Прабуй, можа руль працуе,—сказаў Паўлік.

Пецька ўскочыў на трактар, пакруціў руль, але нічога не памагала.

— Дай я,—узяўся Паўлік за руль, але і яго трактар ня слухаў.

— Што рабіць? — мільганула думка ў хлопцаў.

І, стоячы на трактары, абодва яны зірнулі на сэмафор.

Сэмафор быў адкрыты, а значыць і дарога для цягніка адкрыта. Дзесьці здалёку пачуўся ход цягніка.

— Ідзе... чуеш ідзе... — занепакоіўся Паўлік.

Ён азірнуўся навакол сябе, шукаючы дапамогі. Але ратунку ня было.

Зноў хлопцы накінуліся на трактар, але Пецька схамянуўся:

— Бяжы ў будку. Скажы бацьку, каб закрылі сэмафор.

Паўлік пабег, а Пецька схіліўся над рэйкай. Стук ад колаў чуваць быў ясьней.

— Не пасьпее дабегчы,— разанула вострая думка ў галаве.

Здалёк паказаўся дымок паравозу.

— Усё загінула... Наскочыць... Разаб'ецца...— віхурай пралятаюць страшныя думкі.

Цягнік усё набліжаўся. Вось-вось вынырне з далячыні.

У момант ускочыў Пецька на трактар, скінуў скоранька сарочку і пачаў махаць ёю.

— Убачаць, ці не? А калі ўбачаць, ці зразумеюць сігнал?

Цягнік імчаўся.

„Можа саскочыць, кінуцца тварам на зямлю, каб ня бачыць гэтага?“

Не, Пецька так ня зробіць, ён пераможа свой страх. Піанэр не павінен баяцца.

І, хоць млеючы ад страху перад пагрозай, Пецька ўсё-ж стаяў і ўпарта махаў сваёй сарочкай.

* * *

Заўважыў машыніст сыгнал, затармазіў ход. За некалькі шагоў ад Пецькі спыніўся цягнік

Павыбягалі з цягніка людзі паглядзець на здарэньне.

Зьнясілены, бледны ад пережытага, стаяў каля трактара Пецька, а вецер разьвяваў яго чырвоны гальштук на грудзёх.



# Пузыркі



Апавяданьне А. Някерава
Малюнкі Я. Саматыі

I

У нашым калгасе правялі электрычнасьць. У нашай хаце таксама два пузыркі павесілі. А ў нас дзядуля быў. Убачыў ён—пузыркі вешаюць, лаяцца пачаў.

— Што вы выдумляеце,— кажа,—ня будуць гарэць вашы пузыркі.

Я таксама ня верыў, пакуль праводзілі электрычнасьць. Вельмі-ж дзіўна было: газы ня трэба і запалак ня трэба. А калі зрабілі ўсё, выпусьцілі сьвятло ў абодва пузыркі, мы ўсе і зьдзівіліся.

— Што такое?

У пузырках валаскі тоненькія загарэліся, а самі пузыркі патрошку награюцца. Тут бацька сказаў нам:

— Вось, дзеці, да чаго вучоныя людзі дадумаліся. Сьвятла многа і дыму няма. Можна і печ дрывамі не паліць — на электрычнасьці страва згатуецца. І коням дапамагае электрычнасьць—зрабіў электрычны плуг, уключыў ток і ары.

Я. КУПАЛА

# ЮРАЧКА

Ой ты, Юрачка,
Што ня вучышся?
Так да невукаў
Ты далучышся.

А як вырасьцеш
Ты няўмекаю,
Усе высьмеюць
Недарэкаю.

* * *

А ў нашага Юрачкі
У капоце дзюрачкі,
Нарабіў ён іх сабе,
Як стаў лазіць па вярбе.

А ў нашага Юрачкі
Пагублены гузічкі,—
Ён тады іх пагубляў,
Як з садочку уцякаў.

А з нашага Юрачкі
Сталі кпіць і курачкі,
Што ня мыўся цэлы дзень
І бубніць, як авадзень.

А нашаму Юрачку
Тнуў камар у скурачку,
А Юрачка—ай-ай-ай!
Камарочак, ня кусай!

## II

Вышлі ўсе з хаты, адзін я застаўся. Хочацца мне даведацца—пячэцца валасок у пузырку ці не? Над пузырком маленькая галоўка, а ў ёй маленькая ручка. Пакруціў я гэту ручку направа—агонь зьявіўся. Пакруціў яшчэ раз—таксама направа—цёмна стала. Пакруціў яшчэ раз—зноў відно. Тут я ўзяў ды адвіньціў пузырок ад галоўкі.

Агонь патух.

Пачаў я мацаць галоўку зьнізу, дзе пузырок прывінчваецца, а мяне як тузане за пальцы. Напалохаўся я, закрычаў:

— Хто гэта тузануў мяне?

Памацаў тое месца ў галоўцы яшчэ раз, зноў мяне тузанула. Я зноў закрычаў. Увайшоў бацька ў хату, пытае:

— Ты чаго крычыш?

Я сказаў яму:

— За пальцы мяне тузануў нехта.

Тут бацька і расказаў мне:

— Ты адвіньціў пузырок, а электрычнасьці ня выключыў. У вяровачцы, на якой вісіць пузырок, знаходзіцца электрычная сіла, гэта яна цябе ўдарыла па руках. Больш не адвінчвай без мяне, а то можаш бяды натварыць. Трэба ведаць, як з такім агнём абыходзіцца. Электрычная сіла і каня забівае.



# БАРЫКАДЫ

Апавяданьне Г. РамаPоўскай
Малюнкі В. Шчаглова

Каля варот дому, на рагу вуліцы, забаўляліся дзеці. Яны зьбіралі пясок у формачкі і рабілі з яго розныя фігуркі. Гэта гульня вельмі цікавіла дзяцей. Працавалі яны дружна, але моўчкі.

Раптам пачуліся гудкі аўтамабіля і крыкі людзей. Дзеці спынілі гульню; яны сарваліся з месца і пабеглі да тратуару. Далёка сьпераду, па роўнай гладкай вуліцы, нібы шалёны, імчаўся аўтамабіль. Яго з шумам даганяла матацыклетка. Апрача таго, каля дзесятка людзей імчалася на вэлёсыпэдах. За імі сярод вуліцы беглі людзі, нешта крычалі і размахвалі рукамі. Усе яны ехалі і беглі за аўтамабілем.

— Бяз нумару едзе,—сказаў Фрыц.

— А можа задушыў каго ды ўцякае,—дадаў Ульрых.



Усе яны ехалі і беглі за аўтамабілем.

Дзеці пачулі, як некалькі разоў засаб нешта моцна трэснула.

— Шына лопнула,—заявіў Ульрых.

— Не, ня шына, а бэнзына дрэнная.

Аўтамабіль быў блізка. Калі ён пад'ехаў да дзяцей, пачулася некалькі стрэлаў з рэвальвэра.





Па роўнай гладкай вуліцы імчаўся аўтамабіль.

Дзяўчынка Магда ўбачыла, як Фрыц закрычаў ды ўпаў на тратуар, а Карл схапіўся за галаву. У яго між пальцаў палілася кроў. Магда кінулася бегчы з моцным крыкам:

— Забілі, забілі!

Шофэр аўтамабіля, відаць, дрэнна ведаў гэтую частку горада. Крута павярнуўшыся за рог, ён стукнуўся аўтамабілем аб слуп. Раздаўся страшэнны трэск, звон пабітага шкла.

Аўтамабіль мігам быў акружаны людзьмі.

— Ну, шаноўныя панове, міласьці просім,—сказаў матацыкліст, адкрываючы дзьверцы аўтамабіля.

З аўтамабіля, зьбялеўшы ад страху, вышла пяць фашыстаў у карычневых рубашках. Людзі ахнулі. Пачуўся агульны гнеўны крык.

— Фашысты... Бі фашыстаў!

І людзі накінуліся на фашыстаў.

Неўзабаве з тратуара загаварыў нейкі чалавек. Яго сьветла-шэрыя вочы іскрыліся гневам.

— Таварышы! Гэтыя сабакі, праяжджаючы міма вось таго дому,—ён паказаў рукою на вароты таго дому, дзе гулялі дзеці,—застрэлілі аднаго хлопчыка. Таварышы, дакуль мы будзем цярпець гэтых крывавых забойцаў. Ня толькі нас, рабочых, а і дзяцей нашых забіваюць. Трэба, таварышы, зрабіць гэтаму канец.

Людзі заварушыліся. Гул соцен галасоў перапыніў яго прамову.

Потым гаварыў матацykліст.

— Каб даць адпор фашыстам, нам, рабочым, трэба арганізавацца.

— Фашысты ідуць... Паліцыя!—закрычалі з натоўпу.

— Ідуць,—загаварыў матацыкліст.—Ідуць сваіх ратаваць... Таварышы, запішэцеся ў атрады самаабароны, якія ўвесь час арганізуе наша камуністычная партыя. Ачысьцім нашы вуліцы ад фашыстаў. Усе—у атрады рабочай самаабароны! Прэч фашыстаў! Рот фронт!*)

Вуліцы, дамы, здавалася, скалануліся ад дружнага адказу:

— Рот фронт! Рот фронт! Рот фронт!

З-за рогу вуліцы паказаўся атрад фашыстаў. Іх было каля 100 чалавек.



**— Забілі, забілі!—закрычала дзяўчынка Магда.**

Калі падышлі блізка, з крыкамі: „бі камуністаў“—накінуліся на людзей.

Усё зьмяшалася. Пачалася крывавая бойка. У дапамогу камуністам з усіх бакоў сьпяшаліся рабочыя.

На дапамогу фашыстам сьпяшаліся паліцэйскія.

*) Чырвоны фронт.



**— Ну, шаноўныя панове, міласьці просім,—сказаў матацыкліст.**

Але камуністаў і рабочых было куды больш. І фашысты з паліцэйскімі далі ходу.

Рабочыя беглі за імі наўздагон з крыкамі: „Бі фашыстаў, бі праклятых шуцманаў!“

—Барыкаду... Будуйце барыкаду!—крыкнуў нехта з рабочых.

Усе падхапілі гэты крык.

— Барыкаду... Будуйце барыкаду!..

З двароў сталі прыносіць бярвеньні, дошкі, бочкі, розную паламаную мэблю.

На дапамогу прышлі піянэры. 12-ты атрад імя Тэльмана і 3-ці атрад імя Сталіна.

— Рабята,—сказаў ім таварыш Генрых, матацыкліст,—вось вам работа. Насеце сюды каменьні, зьбірайце як мага больш бутэлек, шклянак, наогул шкляной пасуды, разьбівайце яе на дробныя кавалачкі і рассыпайце па вуліцы перад барыкадамі. Толькі хутка гэта зрабеце.

І дзеці мігам выканалі яго загад. Палавіна вуліцы перад барыкадай блішчала ад кавалкаў шкла.

— Ну і галава ў цябе, Генрых,—засьмяяўся адзін рабочы, што стаяў каля барыкады.—Няхай зараз пад'едуць, вось пацеха будзе.

Генрых засьмяяўся, падышоў да аднаго камсамольца і штосьці шапнуў яму. Той кіўнуў галавою і пабег. Неўзабаве ён нёс у руках чырвоны сьцяг.

— У-р-р-а! Рот фронт!—радаснымі крыкамі сустрэлі рабочыя сьцяг.

Чырвоны сьцяг, прывязаны да бервяна, разьвяваўся на ветры. Стала весела.

— Ідуць... Ідуць.—закрычалі з усіх бакоў.

Паліцэйскія і фашысты ішлі дзьвюма асобнымі каленамі.

— Панове фашысты, змажце пяткі!—сустрэлі іх жартоўнымі выкрыкамі рабочыя.



Вуліца блішчала ад кавалкаў шкла.

Паліцэйскі афіцэр спыніў сваю калену, а сам падышоў бліжэй і крыкнуў:

— Хто вам дазволіў гэта зрабіць? Зараз-жа ачысьціць вуліцу.

— Ха-ха-ха,—адказаў яму дружны рогат рабочых, што стаялі за барыкадамі.

Афіцэр загадаў сваім наступаць. Тыя рушылі да барыкады. Але іх сустрэў град каменьняў. Паліцэйскія завярнулі назад.

— Штосьці фашысты стаяць і глядзяць,—сказаў Генрых.—А-а! Вось яшчэ і дапамога ідзе да іх.

Да барыкады рысьсю набліжаўся атрад конных паліцэйскіх. Коні, трапіўшы на засыпаную шклом вуліцу, раптам пачалі кідацца ў бок і станавіцца дубка.

Тады паліцэйскія пусьцілі ў ход зброю. Група з іх падбегла да барыкады і кінула гранаты.

Рабочыя перасталі жартаваць.

— Эх, каб вінтовачкі нам,—уздыхнуў адзін рабочы.



— Каменьняў давай, каменьняў!

І на гэты раз наступ паліцэйскіх быў адбіты.

За барыкадай ужо былі параненыя рабочыя. Ім тут-жа рабілі перавязкі.

Піанэры ўвесь час насілі каменьні.

Але так цягнулася нядоўга.

— Э-ге, чуеце таварышы... Аўтамабілі ідуць... Ну, цяпер барыкадзе капут,—сказаў Генрых.

— Не пакінем барыкады! Хай ідуць. Мы іх не баімся.

— Кіньце, таварышы! Супроць бранявікоў мы не ўстаім,—спакойна сказаў Генрых.—Лішніх ахвяр непатрэбна. Мы зараз разыдземся. Няхай паліцыя ловіць вецер у полі.

— Ну, дык бывайце. Рот фронт!

— Рот фронт! Рот фронт! Рот фронт!

Паліцэйскія бранявікі падышлі блізка і пачалі растрэльваць барыкаду.

Рабочыя адступілі. Але не надоўга. Скора яны зноў сустрэнуцца з сваімі ворагамі. Але рукі іх будуць ужо ўзброены ня толькі аднымі каменьнямі...

Казка Л. Талстога



# Вожык і заяц



Сустрэў заяц вожыка і кажа:

— Ты, вожык, нішто сабе хлопец, толькі ногі ў цябе крывыя, няважныя.

Вожык узлаваўся нават і кажа:

— Ты што-ж гэта сьмяешся: мае крывыя ногі скарэй за твае простыя бегаюць. Вось дай толькі схаджу адпачну крыху, а потым пабяжым навыперадкі.

Вожык знайшоў свайго таварыша і кажа яму: „Я з зайцам паспрачаўся: хочам бегчы навыперадкі!“

Таварыш той і кажа: „Ты, відаць, розум страціў! Куды табе з зайцам спрачацца? У яго ногі быстрыя,—а ў цябе крывыя і тупыя.

А вожык кажа: „У яго ногі быстрыя, а ў мяне розум быстры. Ты толькі рабі, што я кажу. Хадзем у поле“.

Вось прышлі яны на ўзаранае поле да зайца; вожык і кажа таварышу:

— Схавайся ты на гэтым канцы баразны, а мы з зайцам пабяжым з другога канца; як ён разьбяжыцца, я вярнуся назад, а як прыбяжыць да твайго канца, ты выходзь і скажы: „А я ўжо даўно чакаю“. Ён не пазнае, што гэта ты, а ня я.

Таварыш яго схаваўся ў баразьне, а вожык з зайцам пабеглі з другога канца.

Як заяц разьбегся, вожык вярнуўся назад і схаваўся ў баразьне. Заяц прыскакаў на другі канец баразны, глядзіць, а вожык ужо там сядзіць. Ён убачыў зайца і кажа: „А я ўжо даўно чакаю“.

Заяц не пазнаў, што тут другі вожык, і кажа: „Што за дзіва! Як гэта ён мяне выперадзіў“?

— Ну,—кажа,—давай яшчэ раз пабяжым!

— Давай.

Заяц пусьціўся бегчы назад, прыбег на другі канец. Глядзіць, а вожык ужо там, ды і кажа:

— Э, брат, ты толькі цяпер, а я ўжо даўно тут.

— Што за дзіва!—думае заяц,—ужо як я борзда скакаў, а ўсё-ж ён выперадзіў мяне. Ну, дык пабяжым яшчэ раз, цяпер ужо ня выперадзіш.

— Пабяжым!

Паскакаў заяц, што меў сілы. Глядзіць, а вожык зноў сядзіць і чакае. І так заяц да таго часу бегаў з канца ў канец, што з сілы выбіўся.

Заяц здаўся і сказаў, што ўжо ніколі ня будзе спрачацца з вожыкам.






# Бізва ў акіяне

Нарыс Я. Маўра
Малюнкі Эйдэльмана

## I. У ледзяной пустыні.

Гудзе суровы Паўночны акіян. Шэрыя каламутныя хвалі кідаюцца на крыгі, што крышаць і разганяюць іх ва ўсе бакі, то зноў зьбіваюць іх у кучы—„таросы“. І чым далей на поўнач, тым усё менш і менш прасторы для хваляў, тым больш і больш месца займае лёд. Там вада блішчыць толькі ў лужынах і шчылінах сярод лёду, ды і то не надоўга: праз хвіліну лёд сьціснецца—няма вады. Шчыліна зьявіцца ў другім месцы.

Сярод гэтага лёду трапляюцца астравы. Ніхто ніколі ня жыў на іх, апрача белых мядзьведзяў, цюленяў ды маржоў. Цікавіліся гэтымі краямі толькі вучоныя. Яны казалі, што тут „робіцца надвор'е“.

Калі-б мы добра ведалі, якія атмасфэрныя*) зьявы адбываюцца тут, тады маглі-б наперад ведаць надвор'е ў нашых краёх.

Але ня маюць вучоныя караблёў, ледаколаў, радыёстанцый і ўсіх тых сродкаў, якія патрэбны для гэткай справы. Усё гэта можа мець толькі дзяржава. Буржуазныя-ж дзяржавы такімі справамі не займаюцца.

Ішлі стагодзьдзі—і ніхто ня трывожыў мядзьведзяў і цюленяў на паўночных астравох пакуль ня прышлі бальшавікі. Мінуў які-небудзь дзесятак гадоў—і на гэтых астравох, як кропкі ў ледзяной пустыні, зьявіліся калёніі: некалькі будынкаў, радыёстанцыя і 5—10—15 чалавек. Завезены яны сюды ўлетку і пакінуты да наступнага году.

Здараецца, што ў наступным годзе карабель ня можа пад'ехаць да іх, тады яны застаюцца на другі год, а часамі і на трэці.

А за гэты час яны вывучаюць прыроду. даюць зьвесткі па радыё, дасьледуюць астравы і мора; пехатою і на сабаках, у сьцюжу і мяцеліцу, у шматмесячную бесьперапынную ноч праходзяць яны сотні і тысячы кілёмэтраў і нярэдка гінуць.

І ўся гэтая справа залежыць ад таго, ці здолее сюды хоць адзін раз у год прыехаць карабель.

## II. „Малыгін“ сеў на дно.

Калі ўлетку ехаць па Ледавітым акіяне цяжка і небясьпечна, дык што-ж тады гаварыць пра зіму? Тады ноч там цягнецца тыдні і месяцы, вялізарныя вятры бадай што ня спыняюцца, крыгі плаваюць яшчэ гусьцей, вадзяныя пырскі ад сьцюжы зараз-жа замярзаюць і скоўваюць карабель і людзей. Таму ўзімку ніхто і ня езьдзіць там.

А савецкі карабель **„Малыгін“** у самую сярэдзіну зімы, 24-га сьнежня, адправіўся на востраў Шпіцбэрген. Тры дні тузала яго ў акіяне, але даехаў шчасьліва. І толькі каля берагу здарылася няшчасьце: на беразе далі памылковы сігнал, карабель накіраваўся ня ў той бок і сеў на мель. Праз 9 гадзін ён зьняўся, але ў дне была прабоіна, і ў сярэдзіну набралася вады на чатыры мэтры.

Праз некаторы час зноў стукнуўся аб камень і тады ўжо нічога не заставалася, як самому кінуцца хутчэй да берагу і сесьці

*) Атмасфэра—пласт паветра, які займае 12 кілёметраў ад зямлі.

на дно, як мага бліжэй да зямлі. Капітан так і зрабіў.

На лодках, на крыгах, з дапамогай берагавых жыхароў, усе людзі перабраліся з карабля на бераг. Карабель застаўся адзін у моры. У густой цемры блішчалі яго агні. Але вада хутка напаўняла яго; ён пачаў хіліцца на бок. Вось ужо і агні згасьлі.

Мёртвы карабель ляжаў на баку, верхняя палуба рубам вытыркалася над вадой і над ён чарнелася труба. Хвалі люта накінуліся на здабычу, вакол карабля пачала нарастаць ледзяная кара.

Людзі знайшлі прытулак у прыбярэжных жыхароў.

## III. НА ДАПАМОГУ „МАЛЫГІНУ“

Праз ледзяныя прасторы радыё прынесьла вестку аб няшчасьці на бацькаўшчыну. Праз некаторы час на дапамогу „Малыгіну“ ішлі ледакол „Седов“ і невялічкае судно „Руслан“. Трое сутак жудаснага падарожжа— і судны падышлі да вострава Шпіцбэргена.

Але чым можна было дапамагаць „Малыгіну“? Нават даступіцца да яго цяжка. Навакол—лёд, ды яшчэ вецер нагнаў вялізныя ледзяныя горы—айсбэргі. Ледзянае кара на „Малыгіне“ зрабілася яшчэ больш тоўстай, на касую палубу трэба караскацца на карачках. У прытульных каютах, яшчэ нядаўна сухіх, цёплых, залітых электрычным сьвятлом,—булькае халодная вада. А сэрца карабля — машыны—недзе далёка ў глыбіні. Сярод бліскучых колаў, рычагоў плаваюць рыбы. Ну якую раду можна даць гэтаму караблю сярод вады і лёду, сярод бязупыннай ночы і страшэнных вятроў, у лютую стужу, у пустынным кутку зямлі?

І „Седов“ пайшоў назад у Мурманск.



## IV. „Малыгін“ выратаваны.

27-га красавіка мора было такое самае, як і раней. Тыя самыя вятры і хвалі, тыя самыя халады. Толькі сонца паказалася, але не надоўга. Большая частка сутак—ноч ды і дзень—шэры, змрочны.

Але ў моры, бліжэй да Мурманскіх берагоў, ідзе штодзенная праца: рыбацкія судны бязупынна ловяць рыбу, ня гледзячы на вецер і холад. І тут ідзе праца, сацыялістычная, ударная.

Апрача рыбацкіх суднаў, у гэты час рэдка можна ўбачыць які-небудзь карабель, ды і той звычайна ідзе ўздоўж берагу,—у Архангельск, ці адтуль.

Але вось нейкі карабель ідзе проста з поўначы, з акіяну. Ідзе шпарка, ня гледзячы на вецер і хвалі. Густы, чорны дым разьвіваецца нібы тая грыва. Электрычныя агні блішчаць з цёплых утульных кают.

Падышоў бліжэй карабель і рыбакі ўбачылі надпіс:

**„Малыгін“.**

Той самы „Малыгін“, які некалькі тыдняў назад быў пад вадой у пустынным Ледавітым акіяне. Той „Малыгін“, у якога ў каютах і сярод машын плавалі рыбы.

І на дарогу ў Мурманск „Малыгін“ патраціў на восемнаццаць гадзін менш як „Седов“.

## V. Хто выратаваў „Малыгіна“.

Гэта быў цуд ня горшы ад казачных.

**І зрабіць такі цуд маглі толькі бальшавікі, толькі савецкія героі... Да гэтага часу нідзе яшчэ нічога падобнага ня было.**

Калі „Седов“ зьвярнуўся, тады быў пасланы больш магутны ледакол „Ленін“. На ім былі новыя машыны для гэтай працы, толькі што атрыманыя з Германіі. І былі людзі, якія пастанавілі не вяртацца назад без „Малыгіна“.

Апісваць усю тую працу, якая была зроблена, мы тут ня можам. Для гэтага патрэбна асобная кніга, якую нам дадуць удзельнікі гэтага паходу.



# Прыяцелі чалавека



Горача ўлетку. Бязьлітасна пячэ сонца. Трымціць, пераліваецца нагрэтае паветра. І хочацца ў такі час на хвілінку ў цянёк схавацца ад сьпёкі.

І часта пачуеце:

— Як добра ў халадку адпачыць пасьля работы, проста здаравееш целам.

— А што сталася-б, каб ня было лесу?

Уся мясцовасьць мела-б пануры выгляд. Ад гарачага сонца павыгарала-б зеляніна, а вятры разносілі сухі пясок, засыпаючы лепшыя ўрадлівыя землі.

Вялікую сілу мае лес і вялікую карысьць дае ён чалавеку. Куды ня кінеш вокам—дрэвы. І ўсюды, ва ўсім—дрэвы дапамагаюць чалавеку, служаць яму.

Вось стаіць пабудаваны драўляны дом, а ўнутры яго таксама амаль усё зроблена з дрэва: сталы табурэткі, лавы, паліцы...

Па рэчках плаваюць драўляныя лодкі, баржы На драўляных слупох разьвешаны тэлеграфныя правады, а на драўляных шпалах ляжаць сталёвыя рэйкі...

Дрэвы ідуць на будоўлю, на апал. З дрэва здабываюць шпігінар, смалу, клей, дзёгаць, каніфоль, воцат і іншае.

Прастудзіліся вы—вас натруць шпігінарам і дадуць напіцца ліпавага цьвету. А то дадуць хіны. А хіна таксама здабываецца з кары хіннага дрэва.

Калі-ж у вас слабыя грудзі—пастарайцеся жыць у сасновым лесе,—гэта надта карысна. Вось бачыце: дрэвы зьяўляюцца яшчэ і добрымі дактарамі. Яны лечаць хворых, умацоўваюць наша цела.

А ці ведаеце вы, што дрэвы затрымліваюць вільгаць у зямлі? Калі высекчы ў якой-небудзь мясцовасьці лясы, дык рэчкі ў гэтых мясцох стануць мелкімі, а шмат якія з іх зусім высахнуць.

Хто ехаў на цягніку, дык бачыў як наабапал чыгункі растуць невялічкія дрэвы. Яны затрымліваюць узімку сьнег, а ўлетку пясок. А для чаго гэта патрэбна? Каб сьнег і пясок не засыпалі рэяк.



Цяпер бачыце, якую вялікую карысьць людзям прыносяць дрэвы. Яны найлепшыя прыяцелі чалавека.

Чаго-ж вымагаюць дрэвы ад чалавека?

Дрэвы хочуць, каб іх шанавалі, ня зьнішчалі дарэмна.

А ці ўсе шануюць дрэвы?

Не. Вы самі наглядалі, колькі дрэўцаў ломіцца дзецьмі без патрэбы. А з іх некалі вырасьлі-б тоўстыя дрэвы і далі-б вялікую карысьць чалавеку.

Разводзіць, садзіць дрэвы, дзе толькі можна—вось што павінен рабіць кожны з нас.

ЦАНА №—50 КАП.



# Вясёлы куток





Бяз ног бяжыць,
Бяз голасу крычыць,
Вочы, нібы кола,
Ды ня бачыць нікога.

Я сьмяюся, і яно сьмяецца,
А чаго—ня знаю.
Я насуплю хмура бровы,—
І тое перакрыўляе.
Падыду—і яно
падыдзе,
Пасваруся,—і яно
робіць так.
Нічога не разумею,
Што гэта за дзівак.





## ЦІКАВЫЯ МАЛЮНКІ

Аднаго разу ў час перапынку ў школе Адам намаляваў на дошцы нейкія фігуркі. Намаляваў і адышоўся.



— Ты на што без патрэбы крэйду псуеш ды дошку забруджваеш? Сатры зараз-жа,— скамандаваў дзяжурны.

Усьміхаецца Адам, а дзяжурны схапіў анучку ды хацеў сьцерці.

Тады падбег Іванка ды кажа:

— Чакай, чакай, гэта-ж цікавыя малюнкі. Адам толькі не дакончыў іх маляваць.

— Якія тут малюнкі...—сьмяюцца вучні з Іванкі.

А Іванка ім:

— А вось глядзеце, што з іх можна зрабіць.



Спадабалася гэта ўсім вучням.

— Ну, яшчэ што-небудзь намалюй,— просяць.

— Вось вам яшчэ пара малюнкаў,— кажа Іванка.



А цяпер, дзеці, вы што-небудзь намалюйце самі. Падумайце. Прышлеце нам у рэдакцыю.

### Адказы на загадкі

З № 7.

1. Сонца і хмары. 2. Паветра. 3. Рэшата.

З пяці квадратаў чатыры робяцца вось так



З № 8.

1. Гадзіньнік. 2. Казюлька. Вада. 4. Вятрак.

*У № 10 чытайце адказы—хто лепей напісаў апавяданьне аб прыгодах піанэра-лыжніка.*

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА". Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1377. У ліку 5.980 экз. Менгарліт № 1440.